**СОНЦА:**

Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 7.27, 16.21, 8.54;
Віцебск — 7.22, 16.06, 8.44;
Магілёў — 7.18, 16.10, 9.54;
Гомель — 7.10, 16.11, 9.01;
Гродна — 7.43, 16.35, 8.52;
Брэст — 7.36, 16.43, 9.07.

**МЕСЯЦ:**

Поўня 10 лістапада.

**ІМЯНІНЫ**

Параскевы, Цярэнція, Неаніла, Фота, Фядула, Сцяпана, Арсеня, Дзмітрыя, Максіма, Івана



# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

10 ЛІСТАПАДА 1992 г.
аўторак, № 227 (22005)




## РОЗГАЛАС

### ВЕСЯЛІЦЦА І РАДУЕЦЦА ЎВЕСЬ НАРОД?

**Не паспелі людзі звыкнуцца з думкай аб падаражанні праезду ў міжгароднім транспарце, як тут яшчэ адна навіна прыспела — чарговае павышэнне цэн у 2 разы. Хаця ў Міністэрстве транспарту і меркавалі, што беларусам да 1993 года чакаць падаражання не трэба, аднак цэны на нафтапрадукты «папрасілі» чарговага грашовага ўлівання.**

Нагадаем, што з 20 кастрычніка праезд у міжгароднім транспарце каштаваў 90 капеек за кіламетр, а ў мяккім аўтобусе — 1 рубель. Цяпер за адзін кіламетр дарогі трэба выкласці адпаведна 1 рубель 80 капеек і 2 рублі. Невядома, ці зможа гэтая экстранная мера выцягнуць «Пасажыраўтатранс» з даўгавой ямы, а вось ахвоту ездзіць у людзей, мабыць, надоўга адаб'е.

— З 9 лістапада, згодна з пастановай Савета Міністраў № 657 ад 30 кастрычніка, мы ўстанавілі новыя тарыфы на праезд, — гаворыць начальнік аддзела фінансаў Міністэрства транспарту Соф'я Кавалёва.

— Пры сённяшніх тарыфах добра, калі мы зможам звесці розніцу паміж цэнамі на паліва і праезд да нуля. Але ўгнацца за цэнамі на бензін практычна немагчыма.

Таму нават і мы не ведаем, ці будзе гэта пастанова аб павышэнні цэн на транспарт да канца 1992 года апошняй. Карацей кажучы, даваць абяцанні людзям аб «чарговым замарожванні» тарыфаў я не буду.

Словам, нават у Міністэрстве транспарту рабіць прагнозы на будучае, даваць нейкія абяцанні (час абяцанак, натуральна, мінуў) не хочуць, ды і не могуць. Яно і зразумела: запраўляюць балем на Беларусі зараз не людзі, а цэны на сыравіну.

Што ж датычыцца падаражання прадуктаў харчавання і прамысловых тавараў, дык нічога канкрэтнага ў Дэпартаменце цэн Дзяржэканомплана карэспандэнтам «Звязды» не сказалі. Вядома толькі, што варыянты разліковых дакументаў па новых цэнах ва ўрадзе Беларусі ёсць. Калі падпішуць іх і ці падпішуць увогуле (а на апошняе разлічваць смешна) — невядома. Адно толькі ясна — падаражанне ідзе.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

### ПАСПЯШЫЦЬ — НЕ ЗАЎСЁДЫ ЛЮДЗЕЙ НАСМЯШЫЦЬ

ПІНСК. Народнае вытворчае аб'яднанне «Пінскдрэў» першым на Беларусі сярод прадпрыемстваў такога буйнога маштабу поўнасцю разлічылася з дзяржавай за сваю маёмасць. Акрамя 21,1 мільёна рублёў першапачатковага ўзносу, выплачана таксама 50 мільёнаў «драўляных», на якія прадастаўлялася пяцігадовая адтэрміноўка. Дрэваапрацоўшчыкам такая сума каштавала вялікага напружання, але яны «паспяшаліся», улічваючы інфляцыю рубля. Цяпер у аб'яднанні «Пінскдрэў» звыш 3 тысяч саўладальнікаў, на кожнага з якіх адкрыты асабовы рахунак.

ПАЛЕМІКА

## ХАРЧАВАЦЦА СВЯТЫМ ДУХАМ?

**ПАЗІЦЫЯ НЕЗАЛЕЖНЫХ ПРАФСАЮЗАЎ ПА ПРАБЛЕМАХ ВЫЖЫВАННЯ НАСЕЛЬНІЦТВА ВА ЎМОВАХ САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАГА КРЫЗІСУ**

**Гаворачы пра сённяшняе жыццё-быццё радавога працаўніка, грамадства ў цэлым, не будзем шматслоўнымі, а проста канстатуем: беларускі народ у асноўнай сваёй масе амаль дайшоў да мяжы галечы. Як ратавацца, дзе шукаць выйсце з тупіка? Аб гэтым, у прыватнасці, ідзе размова на цяперашняй сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі.**

**Зрэшты, уласныя рэцэпты маюць усе партыі, палітычныя рухі і грамадскія арганізацыі. У прыведзеным інтэрв'ю свой погляд на частку праблем выказвае сустаршыня Асацыяцыі незалежных прафсаюзаў прамысловасці Беларусі Аляксандр БУХВОСТАЎ.**

— Усе рухі і грамадскія аб'яднанні настолькі зачакаліся адкрыцця сесіі парламента, што даўно стаялі, вобразна кажучы, пад ружжом, многія з іх правялі свае мітынгі. Вывела людзей на плошчу і Асацыяцыя незалежных прафсаюзаў прамысловасці. Выбачайце, Аляксандр Іванавіч, але ці многага можна дабіцца гэтымі прывычнымі ўжо для ўсіх акцыямі?

— Ваш песімізм мне зразумелы. Я ж скажу, што незалежныя прафсаюзы не збіраюцца адступаць ад мэтаў сваёй барацьбы. Галоўным на нашым мітынгу быў дэвіз: «Працоўныя, абаронім свае правы на працу і нармальнае жыццё!»

Заўважу, між іншым: я не так ужо веру ў старыя забабоны, але ўсё роўна назіраў за надвор'ем — ці пажаданы для нябеснай канцылярыі прафсаюзны сход пад адкрытым небам? Уявіце, якраз перад нашым мітынгам дождж скончыўся, а вось прамоўцаў з іншых «каманд» ён паліваў як след...

Але гэта так, у якасці адступлення. У рэальным жыцці лепш кіравацца народнай мудрасцю: на Бога спадзявайся, а сам прамашкі не давай. Трэба памятаць і аб тым, што голас народа — голас Божы. А чаго хочуць сёння простыя людзі? Умоў жыцця, хоць у нечым падобных на чалавечыя.

**— Я сказаў бы яшчэ прасцей. Яны хочуць, каб на снеданне, абед і вячэру было што пакласці ў рот і каб мець для гэтага хоць нейкія грошы.**

— Так, гэта — найпершая справа. Калі ж па вялікім рахунку, то вывад напрошваецца

**(Працяг на 2-й стар.).**

### Пастанова Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь

**Аб назначэнні выбараў народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь па Рэчыцкай выбарчай акрузе № 140 Брэсцкай вобласці**

У сувязі з датэрміновым спыненнем Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь 22 кастрычніка г. г. паўнамоцтваў народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь ад Рэчыцкай выбарчай акругі № 140 Бокача Аляксандра Іосіфавіча, у адпаведнасці з артыкулам 58 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь», Цэнтральная камісія па выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Назначыць выбары народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь па Рэчыцкай выбарчай акрузе № 140 Брэсцкай вобласці на 17 студзеня 1993 года.

**Старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь**
**А. АБРАМОВІЧ.**

**Сакратар Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь**
**І. ЛІХАЧ.**

4 лістапада 1992 года,
г. Мінск.

## ФАДЫЁ АКТ

Адбыўся чарговы выпуск курсантаў вучэбнага цэнтра Узброеных Сіл Беларусі.

Усе выпускнікі накіроўваюцца ў воінскія часці і падраздзяленні Узброеных Сіл Беларусі. За межамі рэспублікі ніхто служыць не будзе.

***

**Нагрузка на пагранпераход «Варшаўскі мост» у бліжэйшыя дні, мяркуючы па ўсім, узрасце. Справа ў тым, што на Украіне часова прыпынены пропуск практычна праз усе заходнія пагранпераходы. І можна дапусціць, што ўкраінскія абмежаванні непасрэдна адаб'юцца на Брэсцкім кантрольна-прапускным пункце. Сотні аўтамабіляў з суседніх абласцей накіруюцца да нас. Таму не лішне будзе напомніць, што на Варшаўскім мосце для турыстаў і прыватнікаў дзейнічаюць пэўныя абмежаванні. Апрача таго, згодна з рашэннем Брэсцкага аблвыканкома, машыны з рэспублік, дзе ёсць свае пагранпераходы, заварочваюць назад.**

***

Саракагоддзе Алега Блахіна, які трэніруе грэчаскую каманду «Алімпіакас», адзначаюць сёння ў Кіеве матчам зорак кіеўскага «Дынама» і «Алімпіакаса». На поле выйдуць вядомыя ігракі, якія выступаюць у зарубежных клубах. Сам юбіляр згуляе па адным тайме за кожную з каманд.

Даходы ад матча будуць накіраваны дзецям-сіротам.

ПОСТФАКТУМ

## Там, дзе серп і молат, няма месца «Пагоні»

**Сёмага лістапада прыхільнікі сацыялістычнага выбару і камуністычнай перспектывы наладзілі ўрачыстае шэсце з плошчы Незалежнасці па праспекце Францішка Скарыны да парку Горкага, дзе правялі юбілейны мітынг з нагоды 75-годдзя кастрычніцкага перавароту 1917 года.**



Дзесяцігоддзямі гэты дзень лічыўся галоўным святам у календары краіны, якая называлася СССР. Для многіх, асабліва для тых, у каго большая частка жыцця прайшла пад лунаючым чырвоным сцягам і профілем Леніна, дата 7 лістапада трывала асацыіруецца з урачыстым настроем, бравурнымі маршамі, стройнымі шарэнгамі маніфестантаў, прэтэнцыёзным ваенным парадам, а галоўнае, — з адносным дастаткам, які быў у нашых дамах у 60—70-я гады. І наўрад ці можна дакараць гэтыя 6—7 тысяч людзей (пераважна сталага і пажылога ўзросту), якія сабраліся пад чырвонымі сцягамі і транспарантамі, настальгічна ўспамінаючы мінулае і рашуча пратэстуючы супраць сённяшніх эканамічных цяжкасцей.

Але не дакараць — не значыць ухваляць і падтрымліваць. 7 лістапада 1917 года стаў трагічным днём для лёсу расійскай дэмакратыі. На доўгія дзесяцігоддзі краіна была сапхнута з бальшака цывілізацыі, прайшла праз такія кругі пекла, нацярпелася столькі гора і пакут, згубіла столькі бязвінна закатаваных лепшых сыноў і дачок, што камуністычная ўтопія надоўга аказалася скампраметаванай у вачах сусветнай супольнасці.

Беларусь у выніку кастрычніцкага перавароту не стала незалежнай — яна засталася правінцыяй імперыі. Праўда, набыла бутафорскую, цацачную аўтаномію. Але разам з ёй — дзесяткі Курапатаў, крывавую дыктатуру маскоўскіх стаўленікаў, якія паслядоўна і мэтанакіравана вынішчалі ўсё нацыянальнае.

Кастрычнік 1917-га нельга выкрасліць з гісторыі. Ён перавярнуў свет, карэнным чынам паўплываў на лёс многіх краін. Іншая справа — ці можа гэта лічыцца падставай для трыумфу і ўрачыстасцей, святочных маніфестацый і мітынгаў.

Дзень 7 лістапада 1992 года быў мала падобным на ранейшыя кастрычніцкія гадавіны. Маніфестацыя без пільнай апекі парткомаў не вызначалася ні шматлюднасцю, ні прадуманым маляўнічым афармленнем.

Камуністы яшчэ раз прадэманстравалі свой артадаксальны марксісцкі фундаменталізм, непрыняцце ўсяго нацыянальнага, імкненне да рэваншу, да рэстаўрацыі камуністычнага імперскага рэжыму. Над калонамі не было бачна ніводнага Дзяржаўнага сцяга Беларусі. Беларускае слова не гучала ў прамовах, яго амаль не было і ў тэкстах транспарантаў. Затое не адчувалася няхваткі ў мілітарысцкіх закліках да барацьбы, накшталт такіх: «Социалистическое Отечество в опасности!», «Мир — хижинам, война — дворцам!», «Защитим завоевания Октября!». Хапала таксама адкрытых зняваг у адрас незалежнай Беларусі і яе кіраўнікоў, гучалі галаслоўныя абвінавачанні ў цяжкіх злачынствах, прад'яўляліся патрабаванні аднавіць СССР і сацыялізм.

Мітынг быў нядоўгім. Дзядулі і бабулі з чырвонымі бантамі на грудзях, згарнуўшы ў трубачку свае плакаты, разыходзіліся, гордыя ад пачуцця выкананага грамадзянскага абавязку, каб вярнуцца ў свой утульны, але прывідны свет няспраўджаных ілюзій і падманутых надзей.

**Валянцін ЖДАНКО.**
**Фота С. ГРЫЦА і Я. ПЯСЕЦКАГА.**

## ПРЭМ'ЕР СТРЫМАЎ СЛОВА

Каб я не бачыў вёсачак Калюга і Сяльцы ў Глускім раёне Магілёўшчыны чатыры месяцы назад, падумаў бы, што прывезлі нас у госці ва ўзорны пасёлак, спецыяльна прызначаны для паказу турыстам.

У гарачым, палыхаўшым па ўсёй рэспубліцы пажарамі ліпені Калюга і Сяльцы амаль поўнасцю выгаралі. Іскры з выхлапной трубы аўтамабіля аказалася дастаткова, каб паўсотні дамоў разам з падвор'ямі ператварыліся ў жудаснае папялішча. Старшыня Савета Міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч, які спецыяльна перапыніў водпуск і лячэнне, убачыў тое, што бачыць яму даводзілася толькі ў гады мінулай вайны: закопчаныя коміны, абгарэлыя яблыні і вішні. І даў тады Кебіч слова гаротным сялянкам, што да канца года ў кожнай сям'і будзе сучасны дом з усімі выгодамі. І стрымаў яго.

Не на ранейшай, вышчарбленай трактарамі гравійцы, а на заасфальтаванай вуліцы хлебам-соллю сустракалі Вячаслава Францавіча жыхары Калюгі і Сяльцоў. Звыш сарака цагляных катэджаў выраслі на месцы нядаўніх папялішчаў. Прэм'ера запрасіла ў свой новенькі дом рабочая мясцовай эксперыментальнай гаспадаркі «Глуск» Святлана Пінчук. Яе сям'я з сямі чалавек мае цяпер пяціпакаёвы дом з аўтаномнай сістэмай параводга ацяплення, іншымі, больш прывычнымі для горада, выгодамі.

**Леанід ТРАЦЭЎСКІ,**
**спец. кар. БЕЛІНФАРМА.**



НА ЗДЫМКУ: мнагадзетная маці, палявод Святлана ПІНЧУК запрашае Вячаслава КЕБІЧА адсвяткаваць радасць наваселля.
Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА. (БЕЛІНФАРМ).

*Вячаслаў КЕБІЧ:*

## Вучыцца жыць ва ўмовах рынку можна і дома

Бадай, не чакаў такога цёплага прыёму ад працоўных Бабруйска Старшыня Савета Міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч у час сваёй паездкі ў гэты горад 6 лістапада. Паводле яго слоў, ён знайшоў тут і разуменне, і падтрымку курсу рэформ, праводзімых беларускім урадам.

Галоўнай мэтай візіту прэм'ера быў яго ўдзел у рабоце канферэнцыі Беларускай асацыяцыі прадпрыемстваў недзяржаўных форм уласнасці. У Бабруйску сабраліся прадстаўнікі заводаў і фабрык, калектывы якіх першымі ў рэспубліцы выкупілі свае прадпрыемствы ў дзяржавы і пачалі гаспадарыць па-новаму, разлічваючы, у першую чаргу, на ўласныя прадпрымальнасць і працавітасць.

Гасцей і калег прымаў калектыў прыватызаванага народнага прадпрыемства «Бабруйскдрэў», якое ў гэты дзень святкавала першую гадавіну сваёй дзейнасці ў якасці ўласніка. Перад тым, як сустрэцца ў Палацы культуры з калектывам-юбілярам, Вячаслаў Кебіч агледзеў прадпрыемства, якое за мінулы год ва ўмовах спаду эканомікі змагло не толькі выстаяць, але і дабіцца істотных поспехаў.

На праведзенай у другой палавіне дня канферэнцыі Беларускай асацыяцыі прадпрыемстваў недзяржаўных форм уласнасці, сумешчанай з урачыстым сходам калектыву «Бабруйскдрэва», прэм'ер-міністр у сваім гадзінным выступленні падрабязна ахарактарызаваў эканамічнае, а таксама ўнутры- і знешнепалітычнае становішча рэспублікі, падзяліўся планамі ўрада па далейшаму правядзенню рэформ.

Адкрыта прызнаўшы, што цэны ў рэспубліцы будуць расці, і, перш за ўсё, з-за павышэння кошту энерганосьбітаў, Старшыня Савета Міністраў адзначыў, што дзяржава будзе рэгуляваць цэны на хлеб, мяса і іншыя асноўныя прадукты харчавання. На сёння рэспубліка вырашыла праблему забеспячэння хлебам, ёсць дагаворанасць на закупку цукру і пастаўку алею. Вячаслаў Кебіч лічыць, што ў бліжэйшай будучыні насельніцтва Беларусі не зведае голаду і холаду, але кожны на сваім месцы павінен рабіць усё, што ад яго залежыць, каб паскорыць прыход лепшых дзён.

**Леанід ТРАЦЭЎСКІ.**
**(БЕЛІНФАРМ).**

### НАПЯРЭДАДНІ ВІЗІТУ

Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч прыняў у Доме ўрада Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь пані Эльжбету Смулэк па яе просьбе. Абмеркаваны пытанні, якія датычаць маючага адбыцца афіцыяльнага візіту ў нашу рэспубліку прэм'ер-міністра Польшчы пані Ханы Сухоцкай, а таксама некаторыя аспекты развіцця дружалюбных адносін паміж дзвюма краінамі.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь — БЕЛІНФАРМ.**

### ГАЗЕТА ЯК РАЗМЕННАЯ МАНЕТА

**Здаецца, Навагрудак хутка стане самым чытаючым горадам. Ва ўсякім разе аматары цыгарэт унясуць у гэта свой важкі ўклад.**

**Справа ў тым, што, каб пазбегнуць наплыву савецкіх рублёў з Прыбалтыкі, многія тавары ў горадзе прадаюцца выключна за беларускія разліковыя білеты. У тым ліку і цыгарэты «Астра». Вось толькі ў кіёсках «Саюздруку», дзе яны рэалізуюцца, паколькі няма білета ў 20 капеек, рэшту за 18-рублёвы пачак «Астры» даюць дзвюма газетамі коштам у 1 рубель ці адной двухрублёвай.**

**Усе нібыта і задаволены, а тыя, каму даецца ў якасці рэшты газета «Политика. Позиция. Прогноз», жартуюць, што гэта спецыяльна задумана для падтрымкі выдання.**

### Да канца падпіскі засталося 6 дзён

Паведамляем удакладненыя вынікі падпіснай кампаніі па стану на 1 лістапада 1992 года.

«Звязда» — 171.887 экземпляраў;

«Народная газета» — даныя не апрацаваныя;

«Советская Белоруссия»— 494.194 экземпляры;

«Рэспубліка» — 59.337 экземпляраў;

«Белорусская нива» — 92.658 экземпляраў;

«Знамя юности» — 77.083 экземпляры;

«7 дней» — 142.271 экземпляр.



КАМАНДЗІРОЎКА НА ВАЙНУ

## Бульбяны парашок і паўбохана хлеба...

Беларус-сяржант Валерый Крэнцік нашыў на рукаў свайго параднага кіцеля эмблему нашай «Пагоні». Начальства заўважыла, загадала зняць: маўляў, гэта яшчэ што за герб замежнай дзяржавы? Маскоўскі пагранічны атрад, дзе служыў ураджэнец Пружан, як і ўсе пагранічныя войскі Таджыкістана, цяпер прызнае толькі адну расфарбоўку — блакітна-чырвона-белую.

Сам жа расійскі сцяг ужо ў іншым пагранічным атрадзе — Пянджскім — сшываў таксама беларус, начальнік рэчавай службы атрада старшы лейтэнант Генадзь Аскерка з Барысава. На белую паласу пайшла прасціна, на блакітную — рабочыя штаны працаўніка сталовай, ну, а чырвоная была са сцяга былога Саюза.

Што змянілася пасля вызначэння статуса афгана-таджыкскай граніцы? А нічога не змянілася, упэўнена канстатуе першы намеснік камандзіра Пянджскага атрада падпалкоўнік Уладзімір Жарнякоў. Упэўненасць больш ад усведамлення безвыходнасці, чым ад веры ў лепшую будучыню ахоўваемага кавалка граніцы і сваю асабістую будучыню.

З мая на Пянджскі пагранічны атрад прыпала каля пяцісот парушальнікаў дзяржаўнай граніцы. Калі параўноўваць з мінулым годам, то за той жа перыяд гэтая лічба была ў сотні разоў меншай.

Пагранічнікаў перасталі паважаць. Аб гэтым гаварыў Валерый Крэнцік. Гэтая ж думка выказвалася і Уладзімірам Жарняковым. У чым канкрэтна праяўляецца непавага з боку мясцовага насельніцтва? А ў тым, што зялёны колер успрымаецца многімі, асабліва ў Пянджы, вельмі адназначна — гэта колер Карана. Пагранічнаму зялёнаму ўсё цяжэй ужывацца на яго фоне.

Уладзімір Дзмітрыевіч расказаў нам, як месяц назад яго разам з двума журналістамі з Душанбе хацелі ўзяць закладнікамі. Выратаваліся, можна сказаць, цудам. Толькі на пянджскім кавалку граніцы апошнім часам было адабрана ў парушальнікаў 112 аўтаматаў Калашнікава, 44 ручныя кулямёты, 16 мінамётаў, 13 карабінаў і безліч іншай зброі нашай і замежнай вытворчасці.

І тым не менш У. Жарнякоў не стаў пераконваць у тым, што «халява не пройдзе».

Праходзіць, і яшчэ як. Усё, на што здольная цяпер граніца, гэта «трымацца». Калі на самой заставе можна падстрэліць лася ці нейкую іншую жывёліну і гэтым харчавацца, дык у атрадах бохан хлеба дзеліцца на трыццаць чалавек. Асноўны від ежы — бульбяны парашок. На трох дарослых членаў афіцэрскай сям'і на дзень выдаецца паўбохана. Няма гарачай вады. «Заўтра мы ўвогуле застаёмся без хлеба», — такім быў эпілог нашай размовы з У. Жарняковым.

**(Заканчэние на 3-й стар.).**



НА ЗДЫМКУ: праз некалькі мінут узлёт—курс на Беларусь.

# ХАРЧАВАЦЦА СВЯТЫМ ДУХАМ?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

такі: год надзей на лепшае, што пастаянна абяцалі нам нашы палітыкі і кіраўнікі, завяршаецца. Што бачым? Выбраны курс эканамічных рэформ аказаўся нежыццяздольным. Я ўжо не кажу пра так званае цэнавае бязмежжа, звядзенне на нішто грашовых зберажэнняў народа, спекуляцыю, карупцыю і злачыннасць. Глядзіце: цэны на харчаванне, спажывецкія тавары растуць у некалькі разоў хутчэй, чым даходы працоўных. Дзве трэці насельніцтва з цяжкасцю зводзіць канцы з канцамі, палавіна яго вядзе барацьбу проста такі за фізіялагічнае выжыванне!

Нягледзячы на ўсе высокія дэкларацыі, меры па сацыяльнай абароне найбольш неабароненых слаёў неэфектыўныя. Паводле нашых падлікаў, мінімальны ўзровень аплаты працы складае толькі 12—15 працэнтаў ад рэальнага пражытачнага мінімуму.

**— Але ж, здаецца, гэтыя абставіны якраз і ўлічылі ў парламенце, калі прынялі рашэнне павялічыць мінімальную заработную плату да 2 тысяч рублёў?**

— І вы верыце ў тое, што гэта навукова абгрунтаваная велічыня? Стаўлю пытанне: па якой методыцы зроблены афіцыяльныя разлікі па «спажывецкай карзінцы»?

**— Бачу, Аляксандр Іванавіч, куды паварочвае наша размова. Таму скажу: мяне не трэба пераконваць у тым, што афіцыяльная рыса беднасці павінна разлічвацца толькі па навукова абгрунтаваных мінімальных нормах харчавання. А вось тое, што гэтыя «нормы» чамусьці часта мяняюцца, і заўсёды ў бок змяншэння, сапраўды выклікае падазрэнне. Відаць, айчынныя спецыялісты па праблемах харчавання і да сённяшняга дня не пазбавіліся сіндрому ўгодлівасці перад афіцыяльнымі ўладамі, калі выдаюцца любыя нарматыўныя лічбы — быў бы толькі сацыяльны заказ. Не дзіўна, што адпаведных разлікаў у друку не сустрэнеш...**

— Дзіва што! Велічыня пражытачнага мінімуму наогул хавалася ад людзей на працягу дзесяцігоддзяў, а разлічаная на аснове гэтага паказчыка рыса беднасці ўпаміналася толькі ў закрытых справаздачах пад грыфам «Сакрэтна». Не многае змянілася ў гэтай справе і ў цяперашні час. Урад прапанаваў лічбу ў дзве тысячы рублёў, а Вярхоўны Савет хуценька яе «праштампаваў», — і нікога асабліва не зацікавіла, адкуль яна ўзялася.

**— Адчуваю, што з «дзвюхтысячным парогам» вы не згодныя.**

— З такой пастаноўкай пытання пагадзіцца не магу: ці ж справа ў маіх асабістых поглядах і сімпатыях? Нашы падыходы ідуць ад самога жыцця, і мы іх не хаваем. Прапануючы разлікі Асацыяцыі незалежных прафсаюзаў.

Навука сцвярджае, што для падтрымання жыццядзейнасці свайго арганізма здаровы дарослы мужчына павінен штодзённа спажываць розных прадуктаў на 2.800 калорый. Па методыцы разлікаў, што прымяняецца, наколькі мне вядома, і самімі ўрадавымі структурамі, аб'ём прадуктаў харчавання складае каля 40 працэнтаў ад агульнага кошту мінімальнага спажывецкага бюджэту (МСБ).

Яшчэ 16 верасня наша камісія абышла мінскія магазіны і «зняла» цэны на харчовыя тавары (а яны ж, канешне, былі ніжэйшыя, чым сёння). Дакладны аналіз атрыманых даных паказаў, што толькі на яду дарослы чалавек павінен затраціць у месяц 3.114 рублёў. Адсюль увесь МСБ, ці так званая «спажывецкая карзінка», «цягне» на 7780 рублёў.

Урад жа, а следам за ім і ВС, прапануе мінімальную зарплату ў памеры дзвюх тысяч. Вазьміце ад гэтай сумы 40 працэнтаў — і вы атрымаеце на штомесячнае харчаванне ўсяго... 800 рублёў! Значыць, ты можаш з'есці за 30 дзён чатыры кілаграмы каўбасы, а потым — працягвай ногі?

Суровая рэальнасць патрабуе: ніяк нельга сёння (пра будучае ўжо і не кажу) вызначаць мінімум зарплаты ці пенсіі меншы за 3 тысячы рублёў, і то калі «забыцца» на тое, што чалавек павінен яшчэ і апранацца, плаціць за камунальныя паслугі, каб не быць выселеным з кватэры.

**— Сказана рэзка, але вас у многім можна і зразумець. Не разумею толькі, чаму гэтыя лічбы, якія крычаць крыкам, вы раней нікуды не прадставілі?**

— Вы так думаеце? У пачатку кастрычніка асацыяцыя якраз і накіравала разлікі ў Вярхоўны Савет. І што ж, дэпутаты задумаліся над імі, паспрабавалі разабрацца? Атрымаўся дыялог з глухімі, ніякага адказу не было.

Уважліва назіраў, між іншым, за выступленнем на сесіі ВС старшыні Дзяржкампрацы Г. Бадзея. Характэрны штрых: галоўны наш спецыяліст па сацыяльнай абароне працоўных не сказаў ні слова аб тым, якім чынам урад падлічваў кошт «спажывецкай карзінкі». Ён толькі тое і зрабіў, што спаслаўся на даныя Дзяржкамстата. Натуральна, я задаў яму адпаведнае пытанне. Г. Бадзей не знайшоў нічога лепшага, як адказаць: «Разбірайцеся з Дзяржкамстатам самі».

Сумна, вельмі сумна, што патрэба дэталёва разбірацца з праблемамі выжывання ўсіх і кожнага ёсць толькі ў прафсаюзаў. А што датычыць «слуг усіх паноў» з нашых статыстычных органаў, то кожны ведае, як яны маніпулявалі з эканамічнымі паказчыкамі ва ўсе часы — ад Сталіна і Хрушчова да Чарненкі і Гарбачова. Урадавыя спецыялісты, калі разлічвалі, так сказаць, «каўбасную частку» «спажывецкай карзінкі», то бралі цану гэтых прадуктаў у размеры ўсяго... 40 рублёў. Ці многа вы бачылі такой каўбасы, калі ў асноўным яе сярэдняя цана ў магазінах ужо каля дзвюх сотнень за кілаграм? Відаць, не часта ходзяць апаратныя чыноўнікі, ды і народныя выбраннікі таксама па магазінах і базарах, таму не ў ладах з фактамі рэальнага жыцця.

**— А ці трэба, Аляксандр Іванавіч, так ужо агулам крытыкаваць увесь састаў парламента? Гучалі ж, здаецца, пры абмеркаванні пытання і цвярозыя галасы. Напрыклад, дэпутат А. Лукашэнка так і сказаў: каб парламентарыі прынялі ўзважанае, прафесіянальнае рашэнне, урад павінен прадставіць дэталёвыя разлікі па «спажывецкай карзінцы».**

— Дык яго ж рэпліка, бадай, і была адзінай, а ў астатнім Вярхоўны Савет спрацаваў тут як філіял Саўміна. Што ж датычыць самога А. Лукашэнкі, дык ён — чалавек ад зямлі і добра ведае: калі, скажам, той жа карове замест неабходнай паўтоны сена даць у чатыры разы менш, то не пра малако прыйдзецца весці размову, а ратаваць яе ад галоднай смерці. Дык то ж — карова, а ў нас чамусьці ўсе дзяржаўныя структуры — і выканаўчыя, і заканадаўчыя — быццам зацыкліліся на нейкіх звышновых «медыцынскіх тэорыях»: прапануюць чалавеку гэткае своеасаблівае галаданне-недаяданне.

Чым могуць скончыцца падобныя «эксперыменты»? На што здольныя абрабаваныя, галодныя масы? Не хочацца пра гэта нават і думаць.

**— Вось і падышлі мы да тэмы сямідзесяціпяцігадовай даўнасці: камень з бруку — зброя пралетарыяту. Так трэба разумець?**

— Ведаеце, нашы апаненты не раз кідалі нам абвінавачванні ў нагнятанні страсцей. Аднак ці прафсаюзы ўстанаўліваюць такія «пражытачныя мінімумы», якія пакідаюць пераважную частку насельніцтва за парогам беднасці і галечы, ствараючы тым самым выбуханебяспечную сацыяльную атмасферу?

Мы ж уголас, адкрыта гаворым: ідзе паступовы, але цвёрды наступ на правы працоўных, нават, як мы бачым, на іх права больш-менш нармальна харчавацца. Ці могуць прафсаюзы ў крытычны момант заставацца абыякавымі да надзённых патрэб працаўнікоў? Таму і прынялі на прайшоўшым мітынгу ў адрас ВС рэспублікі рэзалюцыю, якую падтрымалі прафесіянальныя саюзы ўсіх краін СНД: мы не можам далей мірыцца з такой палітыкай, якая вядзе да пастаяннага спаду жыццёвага ўзроўню людзей працы.

Усе гэтыя патрабаванні, зразумела, могуць зноў застацца непачутымі. А таму працоўныя калектывы і пакідаюць за сабой права пікетаваць месца сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін СНД у Мінску ў снежні гэтага года. Ёсць у іх і іншыя магчымасці: абараняючы свае права на нармальнае жыццё, дабівацца адстаўкі Вярхоўнага Савета і ўрада ўсімі законнымі сродкамі — аж да ўсеагульнай забастоўкі.

Падкрэслю, што пазіцыя прафсаюзаў зусім не ўтрыманская: маўляў, вазьмі і падай усім жыццёвы ўзровень накшталт амерыканскага. Цяжкасці і праблемы кіруючых структур усім нам зразумелыя. Але ж, як бы ні было цяжка, іх, як і ўсю непрыглядную праўду, не трэба хаваць ад народа. Падтрымку і давер людзей можа забяспечыць толькі гранічна адкрытая, сумленная эканамічная палітыка.

## КАЛІ ВЫКЛЮЧАНЫ ДЫКТАФОН.

Як жыць далей? Пытанне гамлетаўскага напалу — быць нам ці не быць? А таму не будзем строга судзіць, калі іншы раз узнікаюць, як, прынамсі, у вышэй прыведзеным інтэрв'ю, думкі даволі спрэчныя. Палеміка ёсць палеміка — рэч сёння самая звычайная.

І ўсё ж трывога, што прагучала ў выказваннях прафсаюзнага лідэра, думаецца, небеспадстаўная. Сам факт прыняцця крызіснага пражытачнага мінімуму — гэта сігнал бедства, яснае ўказанне капітанам нашай эканомікі, што рэформа балансуе на небяспечнай мяжы. Значыць, каб трапіць у порт прызначэння, трэба карэкціраваць курс.

**Публікацыю падрыхтаваў Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

# Лічбы мы не ўтойваем...

**СВОЙ ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ ПА ПРАБЛЕМАХ, УЗНЯТЫХ ПРАФСАЮЗНЫМ ЛІДЭРАМ, ВЫКАЗВАЕ НАЧАЛЬНІК УПРАЎЛЕННЯ САЦЫЯЛЬНАЙ АБАРОНЫ І ЎЗРОЎНЮ ЖЫЦЦЯ ДЗЯРЖКАМПРАЦЫ РБ МІХАІЛ ВІРШЫЧ.**

НЕ БУДУ траціць газетную плошчу на ўласныя эмоцыі (а яны пасля прачытання інтэрв'ю, безумоўна, узнікаюць, ды яшчэ якія), а адразу спынюся на адным з выкладаў прафсаюзнага работніка: дзве трэці нашага насельніцтва, маўляў, з цяжкасцю зводзяць канцы з канцамі. Ці так гэта? Ці не занадта моцна сказана?

У гарадах і пасёлках рэспублікі створаны службы па сацыяльнай дапамозе (усяго ў іх налічваецца 3,8 тысячы спецыялістаў), паслугамі якіх карыстаюцца 48 тысяч малазабяспечаных — састарэлых, інвалідаў, адзінокіх. Арганізаваны таксама пункты дабрачыннай дапамогі, дзе прымаюць у насельніцтва адзенне, абутак, іншыя рэчы, а потым бясплатна размяркоўваюць усё гэта сярод тых, хто мае ў іх патрэбу.

І вось што ўжо высветлілася: вельмі многія ад такой дапамогі адмаўляюцца, рэчы не бяруць. У Амерыцы ж, напрыклад, калі чалавек сапраўды збяднелы, жабрак, ён прымае ўсё, што прапануюць. Можа, у нашых людзях яшчэ гаворыць апетая ў песнях і вершах «савецкая гордасць», адпаведная псіхалогія? Магчыма, маюцца і некаторыя запасы...

Вось што сказалі прадстаўнікі Сусветнага банка, якія па справах завіталі да нас у Дзяржкамітэт: «Мы чыталі ў вашых газетах, што 92 працэнты насельніцтва Беларусі знаходзіцца за рысай беднасці. Аднак калі паглядзець на набор вашай «спажывецкай карзінкі» і параўнаць яго, напрыклад, з амерыканскай, то можна прыйсці да высновы: па заходніх мерках вашы людзі ў асноўнай масе далёка не бедныя».

Цяпер аб тым, хто і як падлічвае даходы і расходы. Пры сваіх падліках прафсаюзы зыходзяць, як бачым, у асноўным з цэн на базарах ды ў кааператараў, асабліва калі прадукту, «закладзенага» ў «спажывецкую карзінку», у дзяржаўных магазінах няма. Тым больш яны любяць «здымаць цэны» ў тых жа кааператывах і «камках» на тавары, якія ў «спажывецкай карзінцы» наогул не прадугледжаны. Ці прафесіянальна, ці граматна гэта?

Граматным будзе іншы падыход. Калі надыходзіць час перагляду ўзроўню мінімальнай зарплаты, то пры яго абгрунтаванні зыходзяць з таго, што велічыня гэтага мінімуму павінна быць прыкладна каля 70 працэнтаў ад мінімальнага спажывецкага бюджэту (МСБ). Пры гэтым, дарэчы, улічваецца прагнозны і бягучы рост цэн у тым месяцы, калі робіцца перагляд. Напомню і такі прынцыповы момант: у далейшым, у інтэрвале паміж чарговымі пераглядамі мінімуму зарплаты, адбываецца пастаянная індэксацыя грашовых даходаў насельніцтва—той жа заработнай платы, пенсій, стыпендый, дапамог і г .д.

Мінімальны ўзровень зарплаты ніколі не апускаўся да адзнакі 12—15 працэнтаў ад пражытачнага мінімуму, як сцвярджае А. Бухвостаў. Самая ніжэйшая планка, якаяназіралася,—прыкладна 40 працэнтаў ад узроўню МСБ, аднак у гэты момант і адбываецца перагляд мінімальнай зарплаты. Да таго ж гэтыя «40 працэнтаў» на самай справе куды больш важкія, бо даходы насельніцтва падтрымліваюцца, як ужо гаварылася, пастаяннай індэксацыяй.

Больш падрабязна пагаворым пра методыку падліку кошту «спажывецкай карзінкі». У адпаведнасці з заканадаўствам аб мінімуме зарплаты, яго велічыня вызначаецца на аснове МСБ. У свой час навукоўцы, прафсаюзы, дзяржаўныя органы далі свае прапановы—і на падставе кампраміснага рашэння ў лютым мінулага года быў устаноўлены першы мінімальны спажывецкі бюджэт (ці «спажывецкая карзінка») на сям'ю з чатырох чалавек. Праўда, цяпер гэтая «карзінка» па структуры стала некалькі больш сціплай, бо ў ёй сёння адсутнічаюць спіртныя напіткі, тытунёвыя вырабы. Распрацаваны таксама «спажывецкія карзінкі» і для іншых сацыяльна-дэмаграфічных груп.

Менавіта на падставе кошту «спажывецкай карзінкі» (на сям'ю з чатырох чалавек) і абгрунтавана прапанова па ўстанаўленню новага ўзроўню мінімальнай зарплаты ў 2 тысячы рублёў. Пенсіянеры ж, як вядома, атрымліваюць яшчэ штомесяц дадаткова 500 рублёў кампенсацыйных выплат.

Разгледзім больш уважліва цэнавае пытанне. У рэспубліцы створана служба рэгістрацыі цэн, якая ахоплівае гарады і пасёлкі. Цэны рэгіструюцца больш чым па 1.000 назваў тавараў — ва ўсіх відах гандлю. Інфармацыя сцякаецца ў органы Дзяржкамстата, дзе падлічваюцца сярэднія цэны па рэспубліцы з улікам таваранабароту А ў ім, напрыклад, тая ж вараная каўбаса па аб'ёму пакупак «цягне» намнога больш, чым каўбасныя вырабы больш дарагіх гатункаў,—і сярэдняя цана па, так сказаць, «каўбасным спектры» будзе бліжэй да цаны менавіта варанай каўбасы. Па методыцы падліку, распрацаванай у Дзяржкамстаце, сярэдняя цана па каўбасных вырабах у верасні склала 75 рублёў 57 капеек. А наогул такая тэндэнцыя хістанняў пакупніцкага попыту характэрная для ўсіх тавараў.

Мне не зразумела, адкуль прафсаюзны кіраўнік бярэ лічбу ў 40 працэнтаў, калі заяўляе, што менавіта столькі прадуктовая частка «спажывецкай карзінкі» складае ад усяго кошту МСБ. Лічба надуманая і неканкрэтная, асабліва ва ўмовах хуткага росту цэн.

Паводле падлікаў таго ж Дзяржкамстата, па цэнах верасня на харчаванне аднаго чалавека затрачвалася 1.574 рублі, а гэта складае 64,1 працэнта ад усяго кошту «спажывецкай карзінкі». Так што штучныя 40 працэнтаў ніяк не адлюстроўваюць усіх рыначных змяненняў, як, дарэчы, і выведзеныя адсюль «800 рублёў на штомесячнае харчаванне». Думаецца, гэтыя «рублі» прыводзяцца толькі для таго, каб драматызаваць сітуацыю.

Наогул, сёння многія кінуліся ў падлікі, у статыстыку—і робяць гэта непрафесіянальна, затое з яўным жаданнем падагнаць даныя пад уласныя патрэбы. Відаць, вельмі хочацца атрымаць званне абаронцы інтарэсаў працоўных. Адсюль—і выпады ў адрас кіраўніка Дзяржкампрацы, крытыка яго выступлення на сесіі Вярхоўнага Савета. Можна падняць адпаведную стэнаграму і даведацца, што ўсе неабходныя абгрунтаванні ў тым выступленні былі дадзены. Зыходзячы з фактычнага кошту мінімальнай «спажывецкай карзінкі» ў верасні, паводле даных Дзяржкамстата, велічыня МСБ склала 2.456 рублёў. Дадзена і прагнозная ацэнка змяненняў цэн у кастрычніку і лістападзе. З улікам усіх даных і быў прапанаваны ўзровень мінімальнай зарплаты ў памеры 2 тысяч рублёў. Усё і ўсім павінна быць ясна, ці не так? Але...

Але іншыя грамадскія дзеячы ўсё пішуць, усё выступаюць—і гэта дзеля таго, каб узрушыць сацыяльна малаабароненых людзей, пасеяць пачуццё няўпэўненасці і трывогі. Няхай бы той жа А. Бухвостаў прыйшоў да нас, у Дзяржкампрацы, мы б усё яму растлумачылі, паколькі лічбаў і даных не хаваем. Тады ён змог бы больш кампетэнтна распавесці пра складанасці сацыяльна - эканамічных пытанняў усім, каго вядзе за сабой. Гэта, думаецца, было б і правільна, і сумленна.

**АД РЭДАКЦЫІ: Які з бакоў мае рацыю ў завочнай палеміцы, каму аддаць свае сімпатыі? На гэта зможа вельмі хутка (праз два-тры месяцы) адказаць самы строгі і справядлівы суддзя—наш сённяшні суровы час. Аднак ужо і цяпер, не расстаўляючы ўсе кропкі над «і», кожны чытач мае сваё меркаванне—занадта ўжо блізкая ўсім, балючая для ўсіх узнятая тэма. А таму будзем працягваць далейшую палеміку — чакаем вашых пісьмаў.**



Рэдкай з'явай цяпер, асабліва ў сельскай мясцовасці, сталі культурна-масавыя мерапрыемствы на адкрытых пляцоўках і стадыёнах. Аднак народныя традыцыі не зусім згаслі. Там, дзе абрадам надаюць увагу, творча падыходзяць да сваёй работы, жыццё становіцца цікавае і разнастайнае. Прыклад таму — дзіцячая дашкольная ўстанова № 3 г. Дзяржынска. Вось і днямі работнікі садка арганізавалі і правялі восенькі кірмаш. Настрой прысутным надавалі афармленне пляцоўкі, музыка, радасць на тварах дзятвы. Тут жа выстаўкі-продажы дароў восені. У кашах — духмяныя яблыкі і белакачанная капуста, буракі, бульба.

Фота Івана ШАБАЛІНСКАГА.

ГІСТОРЫЯ БЕЗ «БЕЛЫХ ПЛЯМ»

# Імёны—з небыцця

**Пры падрыхтоўцы рукапісаў гісторыка-дакументальных хронік «Памяць» арганізацыйна-метадычнаму цэнтру міністэрства інфармацыі праз сваіх калег з Рэспублікі Комі ўдалося здабыць спісы нашых землякоў, якія былі прызваны ў Чырвоную Армію з месцаў зняволення. Нам невядомы даваенны лёс гэтых людзей. Абнародваючы спісы, мы толькі пацвярджаем, што нашы землякі аддалі сваё жыццё за Айчыну, чым іх родныя і блізкія могуць сёння ганарыцца.**

**Магчыма, што не ўсе прозвішчы вязняў-воінаў, і асабліва назвы вёсак, дзе яны нарадзіліся або загінулі, дакладныя. Не ўсё можна прачытаць у старых дакументах. Мы вельмі спадзяёмся, што землякі, блізкія і сваякі загінуўшых не толькі адгукнуцца на гэтую публікацыю, але і дашлюць як у газету, так і ў арганізацыйна-метадычны цэнтр дадатковыя звесткі, успаміны, фотаздымкі і іншыя матэрыялы для гісторыка-дакументальных хронік «Памяць».**

**Спісы гэтыя могуць быць выкарыстаны і для хадайніцтва родных і блізкіх аб рэабілітацыі ахвяр. Спісы да друку падрыхтавалі галоўны рэдактар цэнтра «Памяць» В. Жукаў і вядучы рэдактар М. Башлакоў.**

**Наш адрас: 220617, Мінск, ГСП, Машэрава, 11, міністэрства інфармацыі, цэнтр «Памяць».**

**ВІЦЕБСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

АНЦІПЕНКА Антон Фёдаравіч, нар. у 1916 г. у в. Казлы Аршанскага раёна. Жыў у Аляксандраўскім раёне Днепрапятроўскай вобл. Прызваны Ухцінскім РВК 16.08.1942, мал. сяржант, служыў у 58 асобным СБ. Прапаў без вестак у раёне р. Смердыні Таснянскага раёна Ленінградскай вобласці.

БАЦЕНКАЎ (Бацянкоў) Якаў Спірыдонавіч, нар. у 1910 г. у Гарадоцкім раёне. Прызваны Кожвінскім РВК 15.12.1942. Служыў у 1031 АП 100 СД, радавы, прапаў без вестак 28.01.1944.

БЕЛЬСКІ Сяргей Лаўрэнавіч, нар. у 1908 г. Прызваны Кожвінскім РВК 15.02.1943, служыў у 173 СД, мінамётчык. Загінуў у баі 19.10.43. Пахаваны ў в. Палзуха Горацкага раёна Магілёўскай вобласці.

БУТАРОВІЧ Іван Ягоравіч, нар. у 1915 г. у в. Немайта. Прызваны Ухцінскім РВК 23.12.1941, сяржант, загінуў у 1942.

ВАРАНЕЦКІ Станіслаў Міхайлавіч, нар. у 1920 г. у в. Дворышча былога Дрысенскага раёна (Верхнядзвінскага). Прызваны Ухцінскім РВК 4.01.1942, яфрэйтар, служыў у 254 асоб. разведроце 177 СД. Загінуў 20.09.1943 у раёне ст. Пагосце Мгінскага раёна Ленінградскай вобласці.

ГРЫГАРОВІЧ Андрэй Макаравіч, нар. у 1904 г. Прызваны Кожвінскім РВК 15.12.1942. Загінуў 29.12.1943.

ЛАПА Васіль Пятровіч, нар. у в. Саф'янікі б. Дрысенскага раёна. Прызваны Ухцінскім РВК 22.08.1942, ст. сяржант, служыў у 35 МСБр. 2 МСБ. Загінуў 4.02.1945, пахаваны ў г. Банн (Германія) на паўднёва-ўсходняй ускраіне.

ЛЕМНІЦКІ Аляксандр Дзмітрыевіч, нар. у 1907 г. у в. Кастрова Полацкага раёна. Прызваны Корткероскім РВК 7.07.1942. Радавы. Памёр ад ран.

ЛОБАЎ Іван Цімафеевіч, нар. у 1918 г. у в. Маслакі Гарадоцкага раёна. Прызваны Ухцінскім РВК 11.08.1944, радавы, служыў у 1190 СП, загінуў 26.11.1944, пахаваны ля хут. Ламуэльзд Прыэкульскага раёна Латвіі.

МІЦАЛЕВІЧ Уладзімір Тарасавіч, нар. у 1917 г. у в. Саломіна Верхнядзвінскага раёна. Прапаў без вестак у снежні 1941.

НЯФЁДАЎ Максім Якімавіч, нар. у 1900 г. у в. Андрэйчыкі Сенненскага раёна. Прызваны Ухцінскім РВК 10.05.1942, радавы, служыў у 370 СП, прапаў без вестак у жніўні 1944.

НОСІК Міхаіл Іванавіч, нар. у в. Бароўня Лепельскага раёна. Радавы. Загінуў 24.04.1945 у Германіі.

РАБЦАЎ Даніла Пятровіч, нар. у 1912 г. у в. Нешкава Гарадоцкага раёна. Прызваны Кожвінскім РВК 22.06.1943, служыў у 90 СРКД (286 СП), радавы, стралок. Загінуў у баі 17.01.1944. Пахаваны ў саўгасе «Красный балтиец», Цэркаў (магчыма, гэта назва вёскі ці магіла ля царквы) Ламаносаўскага раёна Ленінградскай вобласці.

РАСТУШНЯК Ілля Якаўлевіч, нар. у 1916 г. Прызваны Ухцінскім РВК 4.08.1942, радавы, служыў у 369 ОРР 294 СД, загінуў 15.09.1942.

СІНЯКОЎ Анатоль Апанасавіч, нар. у 1921 г. у г. Дуброўна, прызваны Ухцінскім РВК 26.08.1942, гв. радавы, служыў у в/ч 43105. Загінуў 14.10.1944.

СКРОБ Рыгор Васільевіч, нар. у 1915 г. у Манашкаўскім с/с былога Асвейскага раёна. Прызваны Ухцінскім РВК 23.12.1941, ст. сяржант, служыў у 88 СП 28 СД, загінуў 29.11.1942. Пахаваны ў в. Астрожня Велікалукскага раёна Ленінградскай вобласці.

СМІРНОЎ Гардзей Васільевіч, нар. у 1908 г. Прызваны Кожвінскім РВК 15.02.1943. Служыў у 173 СД, сапёр, памёр ад ран 22.11.1943. Пахаваны ў в. Арловічы Віцебскай вобласці.

СЯНЬКОЎ Васіль Яфімавіч, нар. у 1912 г. у в. Каробкі Дубровенскага раёна. Прызваны Корткероскім РВК 7.12.1942, радавы, курсант дэсантнай школы, прапаў без вестак 3.09.1943.

ХОЛАД Мікалай Сцяпанавіч, нар. у 1909 г. Прызваны Ухцінскім РВК, радавы, служыў у 184 СП 56 СД, загінуў 2.04.1944, пахаваны ў в. Воўкі Ленінградскай вобласці.

(Працяг будзе).

ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ

# Як сесію гарсаветаператварылі ў КВЗ

**ЦІ ВАРТА НАЗЫВАЦЬ УЛАДАЙ ТАКУЮ ЎЛАДУ, ДЛЯ ЯКОЙ І ЗАКОН — НЕ ЗАКОН!**

Кажуць, у наш пераходны перыяд вельмі цяжка жывецца абсалютна ўсім. Аднак думаецца, што сцвярджэнне гэтае спрэчнае.

Чарговая сесія Слуцкага гарсавета разглядала шэраг пытанняў жыцця горада. Сярод іх і тыя, якія датычацца выканання законаў. Гледзячы з боку, было б цікава і смешна station паназіраць, як дэпутаты адмянілі адно сваё незаконнае рашэнне і прыступілі да прыняцця другога.

Агаворымся адразу, што дырэктар харчовага магазіна № 19 дэпутат М. Кукраш, затрыманая праваахоўнымі органамі за парушэнне правілаў гандлю, не належыць да тых колаў, якія вызначаюць палітыку ў горадзе. Яна радавы выканаўца, які стараўся працаваць і добрымі паказчыкамі радаваць нашу сістэму, што выхоўвае ў нас рабскую безыніцыятыўнасць, беспрынцыповасць і залежнасць. Яна выканаўца, які безадмоўна выконваў каманды тых, хто трымаў руль (або трымаецца за руль) і сёння. Рулявыя, у сваю чаргу, пры фарміраванні прадстаўнічых органаў улады рабілі стаўку менавіта на такіх выканаўцаў. І тым, і іншым спакойнае жыццё было забяспечана. Можа, і на гэты раз была выканана чыясьці каманда, а дэпутату М. Кукраш не хапіла смеласці сказаць «не маю права»... Аднак праваахоўныя органы ўспомнілі пра свае правы, і ўжо сесіі трэба было ў адпаведнасці з Законам пазбавіць М. Кукраш дэпутацкай недатыкальнасці і прадаставіць права вырашаць пытанне аб яе віноўнасці або невіноўнасці суду. Напярэдадні сесіі камісія па законнасці пагадзілася даць «добра» ў адказ на прадстаўленне міжрайпракурора.

Здавалася б, пытанняў не павінна быць, калі прафесіяналы - юрысты выступаюць за прыцягненне дэпутата да адказнасці. Але дзе там: свайго ж слова не сказалі яшчэ «высакародныя рулявыя». На іх думку, «законнікі» спрацавалі дрэнна, і трэба было б пашукаць абароны ў дэпутацкай камісіі па гандлі. Старшыня гэтай камісіі В. Кудзёлка паспрабавала нават сваім эмацыянальным выступленнем выклікаць слёзы ў дэпутатаў, выказаўшы і сваю жаночую нязгоду з юрыстам дэпутатам В. Анціфеевай, якая растлумачыла, што ніякіх падстаў для таго, каб адмовіць у прыцягненні да адказнасці М. Кукраш, дэпутаты не маюць. А затым загадчыца аддзела гандлю выканкома В. Якаўлева, дэпутаты-сябры, забыўшы аб прынцыповасці, сталі на абарону М. Кукраш, і пры маўклівай згодзе міжрайпракурора дэпутата А. Новіка сесія ператварылася ў КВЗ. І што да таго, што члены дэпутацкай групы «Дэмакратычная ініцыятыва» неаднаразова звярталі ўвагу на патрабаванні Закона?

Калі добра «пакорпацца» ў ім, закрыўшы вочы і забыўшы пра сумленне, то і на артыкул можна наткнуцца, які дазваляе прыкрыцца дэпутацкай бранёй. Персанальнай жа адказнасці ўсё роўна не несці, а Вярхоўны Савет рэспублікі мер не прыме. І сесія ўжо пайменным галасаваннем прыкрывае «ахвяру» праваахоўных органаў. І старшыня (а яго абавязкі выконвала намеснік старшыні гарсавета Л. Міргародава) ужо не можа быць ніякім гарантам захавання Канстытуцыі, законаў. Яна ж таксама чалавек гэтай сістэмы, і пры чым тут законы, пры чым тут прававая дзяржава?

У даным выпадку проста трэба ратаваць «свайго» чалавека. Тут няма калі думаць выбраннікам народа пра тое, каб падняць давер да ўлады. Гэта ж патрабуе шмат сіл, энергіі.

Лягчэй жа выказваць агульныя меркаванні аб злоўжываннях нейкіх нябачных мафіёзі, беззаконнасці ў горадзе, а самім заклікаць да беззаконня, як гэта рабіла на сесіі дэпутат В. Кудзёлка.

Бяссілле і беззаконнасць улады разбэшчвае і правакуе самавольства. І таму ўжо лепш разам шукаць выйсце з гэтага перабудовачнага тупіка, а заадно і адказ на пытанне: ці трэба называць уладай такую ўладу, для якой і закон—не закон?

**С. СТАНКЕВІЧ,**
**М. ШУСЦЕР,**
**С. МІХАЙЛІН,**
**члены дэпутацкай групы «Дэмакратычная ініцыятыва» Слуцкага гарсавета.**

P. S. Пакуль абмяркоўвалі ход сесіі, даведаліся, што М. Кукраш працуе ўжо таваразнаўцам у гархарчпрамгандлі.

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб індэксацыі даходаў насельніцтва з улікам інфляцыі»**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Унесці ў Закон Рэспублікі Беларусь ад 21 снежня 1990 года «Аб індэксацыі даходаў насельніцтва з улікам інфляцыі» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, 1990 г., № 2, арт. 19; Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 2, арт. 29) наступныя змяненні і дапаўненні:

1. У прэамбуле словы «ў рублях» замяніць словамі «ў грашовых адзінках Рэспублікі Беларусь».

2. Артыкул 1 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

**Артыкул 1. Паняцце і аб'екты індэксацыі.**

Індэксацыя ўяўляе сабой карэкціроўку велічыні не маючых аднаразовага характару даходаў фізічных асоб у грашовых адзінках Рэспублікі Беларусь з бюджэтных крыніц (сацыяльныя пенсіі, дапамогі, стыпендыі, заработная плата па месцы работы, грашовае забеспячэнне), а таксама грашовых зберажэнняў фізічных асоб у выглядзе ўкладаў у грашовых адзінках Рэспублікі Беларусь ва ўстановы дзяржаўнай крэдытна - фінансавай сістэмы і аблігацый дзяржаўных пазык. Рэспублікі Беларусь з мэтай частковага пакрыцця страт, выкліканых інфляцыяй.

Фізічным асобам, якія атрымліваюць грашовыя даходы на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь з іншых крыніц, пакрыццё страт ад інфляцыі можа ажыццяўляцца за кошт сродкаў прадпрыемстваў і арганізацый на падставах, прадугледжаных калектыўнымі дагаворамі (пагадненнямі).

Індэксацыя можа ажыццяўляцца ў выглядзе аднаразовага перагляду размераў аплаты працы (ставак, акладаў), сацыяльных пенсій, дапамог, стыпендый, грашовага забеспячэння, іншых сацыяльных выплат насельніцтву.

Спагнаныя ў адпаведнасці з заканадаўствам заработная плата, гарантыйныя і кампенсацыйныя выплаты, сумы пакрыцця ўрону, нанесенага калецтвам або іншым пашкоджаннем здароўя, звязаным з выкананнем працоўных абавязкаў, індэксуюцца незалежна ад крыніц у парадку, прадугледжаным артыкулам 2 гэтага Закона, за кошт юрыдычных і фізічных асоб, па віне якіх прычынена шкода».

3. Дапоўніць Закон артыкулам 1[1] наступнага зместу:

**«Артыкул 1[1]. Індэкс спажывецкіх цэн**

Індэкс спажывецкіх цэн вылічваецца ў парадку, устаноўленым Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, і штомесячна (не пазней 20 чысла наступнага месяца) публікуецца ў рэспубліканскіх сродках масавай інфармацыі, у тым ліку нарастаючым вынікам з пачатку года і з моманту папярэдняй індэксацыі».

4. У артыкуле 2:

1) у частцы першай словы «Грашовыя даходы індэксуюцца» замяніць словамі «Індэксацыя грашовых даходаў, вызначаных у частках першай і чацвёртай артыкула 1 гэтага Закона, праводзіцца»;

2) частку другую пасля слоў «Індэксацыя грашовых даходаў» дапоўніць словамі «вызначаных у частках першай і чацвёртай артыкула 1 гэтага Закона».

5. Гэты Закон увесці ў дзеянне з 1 студзеня 1993 года.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

29 кастрычніка 1992 г.
г. Мінск.

# Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб бязвыплатнай (з улікам жыллёвай квоты, сумы квот) перадачы ва ўласнасць жылля ахвярам палітычных рэпрэсій і іх сем'ям**

У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь» Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выканкомам мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, прадпрыемствам, аб'яднанням і арганізацыям перадаваць ва ўласнасць бязвыплатна (з улікам жыллёвай квоты, сумы квот) кватэры, што займаюцца рэабілітаванымі грамадзянамі — ахвярамі палітычных рэпрэсій, жонкай (мужам) загінуўшага ў месцах пазбаўлення волі рэпрэсіраванага і пазней рэабілітаванага, якая (які) не ўтварыла (не ўтварыў) новую сям'ю, а таксама дзецьмі, якія знаходзіліся разам з бацькамі ў месцах пазбаўлення волі, у ссылцы, высылцы, на спецпасяленні ў сувязі з рэпрэсіраваннем іх бацькоў, у межах 20 кв. метраў агульнай плошчы на кожнага члена сям'і. Плошча кватэр звыш указанай нормы выкупляецца на агульных падставах.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

3 лістапада 1992 г.
г. Мінск.

# РОЗГАЛАС

## ЧАГО ВАРТЫ ДЫПЛАМАТ, ЯКІ НЕ ВЕДАЕ РОДНАЙ МОВЫ?

Усё больш цеснымі становяцца сувязі паміж Міністэрствам замежных спраў Рэспублікі Беларусь і гістарычным факультэтам Белдзяржуніверсітэта. Яно і зразумела: на факультэце працуе аддзяленне міжнародных адносін, лепшыя выпускнікі якога будуць размяркоўвацца на работу ў міністэрства.

У пятніцу міністр замежных спраў Пётр Краўчанка сустрэўся са студэнтамі і выкладчыкамі гістарычнага факультэта. Размова ішла пра перспектыўныя накірункі супрацоўніцтва, пра дапамогу міністэрства ў арганізацыі навучальнага працэсу, а таксама пра сучаснае міжнароднае становішча Беларусі, яе сувязі з «блізкім» і «далёкім» замежжам. «Рэспубліцы неабходны высокаадукаваныя дыпламаты», — адзначыў міністр. Па папярэдняй дамоўленасці міністэрства будзе браць на практыку лепшых студэнтаў аддзялення міжнародных адносін. Магчыма, будуць стажыроўкі непасрэдна ў пасольствах.

Пятру Краўчанку было зададзена шмат пытанняў, у тым ліку: навошта дыпламату беларуская мова? Міністр перакананы: дыпламат, які не ведае роднай мовы, не зможа паспяхова працаваць.

**Уладзя ТАЦЦЯНЧЫК.**

## «ЦІ ТРЭБА АДНАВІЦЬ РОЛЮ КАМПАРТЫІ Ў НАШЫМ ГРАМАДСТВЕ?»

**Супрацоўнікі Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД) правялі даследаванне на гэту актуальную ў святле парламенцкага абмеркавання, якое мае адбыцца, тэму. Вось што адказалі рэспандэнты (усяго было апытана 1.130 чалавек, кантралявалася 6 параметраў, ад даных статыстыкі адхіленне не перавышае 3 працэнтаў).**

**Так — 14,3 працэнта**

**Не — 49,3;**

**Цяжка адказаць — 35,7;**

**Не адказалі — 0,7 працэнта.**

**Каментарый НІСЭПД: цікава, што працэнт рэспандэнтаў, якія або жадаюць вярнуць ранейшую КПБ, або якім цяжка адказаць (14,3+35,7), куды большы, чым прыхільнікаў камуністычных груповак, якія дзейнічаюць цяпер.**

**РІД.**

## ШТО І КАЛІ МОЖНА РАБІЦЬ У ЛІСТАПАДЗЕ

**Час, рэкамендуемы для лячэння і аперацый:**

— на галаве (у тым ліку пластычныя), вушах — 20—21 лістапада;
— на горле — 23—24 лістапада;
— на лёгкіх, бронхах, плячах, руках — не рэкамендуецца;
— на страўніку, малочных залозах — 26—28 лістапада;
— на сэрцы, спіне — 29—30 лістапада;
— на палавых органах (акрамя яечнікаў) — у тым ліку перарыванне цяжарнасці — 9—11 лістапада;
— на печані, жоўцевым пузыры — 14—15 лістапада;
— на сасудах, галёнцы — 19—21 лістапада;
— на ступнях — 18—19 лістапада.

**Час, рэкамендуемы для:**

— выдалення і лячэння зубоў — 14—15, 20—21 лістапада;
— вывядзення шлакаў, камянёў, солей — 14—15 лістапада.
— стрыжкі, завіўкі і ўкладкі валасоў — 20—21 лістапада;
— чысткі печані, крыві, касметычных працэдур — 18—19 лістапада.

## ЯК НАШЫ ЛІТВУ «ЗАПРАЎЛЯЮЦЬ»...

**Запраўшчыца калгаса «Шлях Леніна» Астравецкага раёна і непрацуючы жыхар гарпасёлка Астравец выкралі з калгаснага склада ГЗМ 4.300 літраў бензіну А-76. Затым, з дапамогай вадзіцеля райсельгастэхнікі, зладзеі на бензавозе, мінуючы КПП, перасеклі дзяржаўную мяжу Беларусі і прадалі паліва ў Вільнюскім раёне сельскагаспадарчаму аб'яднанню «Міцыунас». Цікава, што суправаджаў каштоўны груз старшы лейтэнант Астравецкага райаддзела міліцыі, чыя «праца» была ацэнена ажно ў 15 тысяч рублёў. На пяць тысяч больш атрымаў шафёр; доля запраўшчыцы склала 125 тысяч, а яе «сябра» — 98 тысяч рублёў. Праўда, для ўсіх чацвярых грошы зараз — не самае галоўнае.**

**Віктар ФЕДАРОВІЧ. (БелаПАН).**

**Па «Розгаласу» дзяжурылі: У. Здановіч, І. Карней, А. Сланеўскі, С. Сулкоўскі, І. Шчучэнка, А. Коктыш.**

# Бульбяны парашок і паўбохана хлеба...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

«Заўтра» неяк да канца не ўсведамлялася. Уражвае пагранічнае «сёння». Камандзір аднаго з атрадаў на найбольш небяспечным участку граніцы былога Саюза атрымліваў у месяц 7 тысяч — менш за вучня вадзіцеля тралейбуса ў Маскве. Месяц назад пры выкананні службовых абавязкаў былі забіты афіцэр-пагранічнік і два ваеннаслужачыя тэрміновай службы, якія атрымлівалі па 160 рублёў у месяц... Апошняя аперацыя па затрыманню парушальнікаў граніцы прынесла дзяржаве 180 тысяч рублёў.

Гэтыя і іншыя факты жыцця-быцця пагранічнікаў для нас былі б нейкай экзатычнай навіной, калі б не тая акалічнасць, што да аховы таджыкска-афганскай граніцы актыўна прыцягваліся беларусы.

Наша экспедыцыя здолела забраць амаль усіх дэмбеляў-беларусаў—шэсць нашых землякоў з таго ж Пянджскага пагранатрада вырашылі дабірацца дадому сваім ходам. Але на граніцы засталося 116 беларусаў-пагранічнікаў мінулагодняга майскага прызыву. Назіраючы, з якой цяжкасцю літаральна «выдзіраўся» кожны дэмбель, можна спрагназаваць вяртанне дамоў «майскіх». А калі палічыць колькасць беларусаў-афіцэраў у пагранвойсках Таджыкістана... Нават пры наяўнасці адпаведнай паперы на беларуса-афіцэра з нашага міністэрства абароны, якое гатова прыняць яго на Радзіме, Масква не згаджаецца даваць «добра»... Без нашых афіцэраў, маўляў, ледзь не зусім адкрываецца граніца. Але якое цяпер мы маем да яе дачыненне? У самой Беларусі не хапае кадраў прафесійных пагранічнікаў для аховы ўласных рубяжоў.

Перад нашымі афіцэрамі ўзнікае спакуса дэзерцірства. Супраць яе ўжо не ўстаяў адзін афіцэр-украінец. Але ці лепшы гэта шлях для афіцэраў?

Не хапае, катастрафічна не хапае прамых дамоўленасцей у гэтым напрамку паміж міністрамі абароны Расіі і Беларусі. Пастановы Савета Міністраў РБ пастановамі, а перавод беларускіх салдат і афіцэраў на Бацькаўшчыну — у першую чаргу справа ваенных. І на самым высокім узроўні.

...Мы ляцелі на верталёце расійскіх Ваенна-Паветраных Сіл, якім кіравалі два лётчыкі-беларусы — Ігар Нікалаеня і Андрэй Федуноў—за землякамі-пагранічнікамі ў Маскоўскі пагранічны атрад. Ляцелі па маршруце, на якім верталёт сёлета ўжо абстралялі шэсць разоў: два разы — афганскі бок і чатыры — таджыкскія ісламскія фундаменталісты. Цяпер у апошніх з'явіліся нават «Стынгеры». Я падумаў, што нават праз тыдзень, каб забраць нашых «майскіх», будзе ляцець куды больш небяспечна. І што тады можа і не знайсціся для гэтага верталётаў. Ці жаданне верталётчыкаў ляцець насустрач «свайму» «Стынгеру».

Карэспандэнты канадскай тэлекампаніі Сі-Бі-Сі, якія ляталі разам з беларускім экіпажам месяц назад, сказалі, што яны лёталі з многімі лётчыкамі на многіх войнах, але такі палёт быў у іх упершыню.

За месяц сваіх палётаў верталётчыкі атрымліваюць каля дзесяці тысяч рублёў. У Азербайджане валанцёр-верталётчык атрымлівае тры з паловай тысячы долараў.

Андрэю і Ігару долары не патрэбны. Ім патрэбна Радзіма. І гэта не высокія словы. Гэта боль кожнага дня: «А чаму і каму я тут служу і за каго ці што загіну, калі што?»

На борце верталёта намаляваны расійскі сцяжок і яшчэ лата ад прабоіны, атрыманай у час афганскай вайны. Думкі аб наступнай прабоіне адпрэчваюцца, але няўжо гэта лёс — чакаць, калі цябе забяруць на Радзіму? Усе патрэбныя паперы ў Міністэрстве абароны РБ. Пытанне «калі?» для гэтых хлопцаў, як і для ўсіх беларускіх афіцэраў у Таджыкістане, сапраўды мае жыццёвы сэнс.

Цяпер я ведаю, што для нашых пагранічнікаў-дэмбеляў з Таджыкістана з'яўляецца шчасцем. Калі зашумеў рухавік нашага Іл-76, які адлятаў з Душанбе ў Рось Гродзенскай вобласці, я не ўбачыў слёз на вачах нашых пагранічнікаў, але я ніколі не забуду гэтыя твары. Як не забуду словы Валерыя Крэнціка аб тым, што калі б пагранічнікам давалі за кожнага затрыманага парушальніка ўзнагароды, то не хапіла б медалёў... Дарэчы, тры беларусы, якія звольніліся крыху пазней (Ігар Зуевіч, Віктар Зданевіч і Міхаіл Баховіч) прадстаўлены да медаля «За адвагу».

Самай лепшай узнагародай стаў для 325 беларусаў-пагранічнікаў адлёт на Радзіму. Кіраўніцтва пагранвойск Таджыкістана меркавала нават у першыя дні нашага прыезду ў Душанбе пакінуць іх да Новага года.

А Валера думае пайсці працаваць на Брэсцкую мытню. Пасля таджыкска-афганскай граніцы такіх, як ён, з рукамі адарвуць. Мне здаецца, што не толькі на мытні. А яшчэ Валера расказваў у душанбінскім аэрапорце, як ён хоча ўбачыць беларускіх дзяўчат.

Што ж, мары збываюцца.

**Спецыяльныя карэспандэнты «Звязды» Аляксандр КОКТЫШ, Сяргей ГРЫЦ (фота).**

Мінск—Душанбе—Мінск.

НА ЗДЫМКАХ: старшы лейтэнант Генадзь **Аскерка**; «Мундзір прыберажом для беларускага войска»; няўжо разам дадому?

ДЗЯРЖАЎНЫ КАМІТЭТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ПРАЦЫ І САЦЫЯЛЬНАЙ АБАРОНЕ НАСЕЛЬНІЦТВА
МІНІСТЭРСТВА ФІНАНСАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# ПАСТАНОВА

## АБ РАЗМЕРАХ ДЗЯРЖАЎНЫХ ДАПАМОГ СЕМ'ЯМ, ЯКІЯ ВЫХОЎВАЮЦЬ ДЗЯЦЕЙ

У выкананне пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30 кастрычніка 1992 г. № 658 Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва і Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляюць:**

1. Зацвердзіць і ўвесці з 1 лістапада 1992 года новыя памеры дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей.

**Аднаразовыя дапамогі:**

1.1. 6.000 рублёў — дапамога пры нараджэнні дзіцяці (у выпадку нараджэння двух і больш дзяцей дапамога выплачваецца на кожнае дзіця);

1.2. 3.000 рублёў — дапамога жанчыне, што нарадзіла дзіця, якая стала на ўлік у жаночай кансультацыі да 12-тыднёвага тэрміну цяжарнасці.

**Штомесячныя дапамогі:**

1.3. 2.400 рублёў — тым, хто знаходзіцца ў водпуску па догляду за дзіцем да дасягнення ім узросту трох гадоў працуючым маці ці бацьку, або іншаму сваяку, усынавіцелю (апекуну), а таксама непрацуючым жанчынам, што маюць дзяцей ва ўзросце да трох гадоў;

1.4. 3.000 рублёў — тым, хто знаходзіцца ў водпуску па догляду за дзіцем да дасягнення ім узросту трох гадоў, а таксама непрацуючым, якія маюць дзіця гэтага ж узросту, адзінокім маці, разведзеным мужчынам і жанчынам, калі адзін з бацькоў ухіляецца ад уплаты аліментаў, ці ў іншых выпадках, прадугледжаных заканадаўствам, калі спагнанне аліментаў немагчыма;

1.5. 3.600 рублёў — тым, хто знаходзіцца ў водпуску па догляду за дзіцем да дасягнення ім узросту трох гадоў, а таксама непрацуючым, якія маюць дзіця гэтага ўзросту, адзінокім маці з ліку дзяцей-сірот — былых выхаванцаў дзіцячых дамоў (школ-інтэрнатаў), жонкам ваеннаслужачых тэрміновай службы;

1.6. 1.000 рублёў — сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў;

1.7. 1.250 рублёў — сем'ям адзінокіх маці, разведзеных мужчын і жанчын, калі адзін з бацькоў ухіляецца ад уплаты аліментаў, ці ў іншых выпадках, прадугледжаных заканадаўствам, калі спагнанне аліментаў немагчыма, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў;

1.8. 1.500 рублёў — сем'ям адзінокіх маці з ліку дзяцей-сірот — былых выхаванцаў дзіцячых дамоў (школ-інтэрнатаў), а таксама сем'ям ваеннаслужачых тэрміновай службы, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў;

1.9. 1.200 рублёў — сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце ад 6 да 13 гадоў;

1.10. 1.500 рублёў — сем'ям адзінокіх маці, разведзеных мужчын і жанчын, калі адзін з бацькоў ухіляецца ад уплаты аліментаў, ці ў іншых выпадках, прадугледжаных заканадаўствам, калі спагнанне аліментаў немагчыма, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце ад 6 да 13 гадоў;

1.11. 1.800 рублёў — сем'ям адзінокіх маці з ліку дзяцей-сірот — былых выхаванцаў дзіцячых дамоў (школ-інтэрнатаў), а таксама сем'ям ваеннаслужачых тэрміновай службы, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце ад 6 да 13 гадоў;

1.12. 1.400 рублёў — сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце ад 13 да 16 гадоў (вучняў дзённых агульнаадукацыйных школ, гімназій, ліцэяў да іх заканчэння, а таксама навучэнцаў, якія вучацца за кошт уласных сродкаў у вышэйшых, сярэдніх спецыяльных навучальных установах і на курсах, што працуюць па рэжыму навучальных устаноў у дзённы час, і не атрымліваюць стыпендый, — да 18 гадоў);

1.13. 1.750 рублёў — сем'ям адзінокіх маці, разведзеных мужчын і жанчын, калі адзін з бацькоў ухіляецца ад уплаты аліментаў, ці ў іншых выпадках, прадугледжаных заканадаўствам, калі спагнанне аліментаў немагчыма, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце ад 13 да 16 гадоў (вучняў дзённых агульнаадукацыйных школ, гімназій, ліцэяў да іх заканчэння, а таксама навучэнцаў, якія вучацца за кошт уласных сродкаў у вышэйшых, сярэдніх і спецыяльных навучальных установах і на курсах, што працуюць па рэжыму навучальных устаноў у дзённы час, і не атрымліваюць стыпендый, — да 18 гадоў);

1.14. 2.100 рублёў — сем'ям адзінокіх маці з ліку дзяцей-сірот — былых выхаванцаў дзіцячых дамоў (школ-інтэрнатаў), а таксама сем'ям ваеннаслужачых тэрміновай службы, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце ад 13 да 16 гадоў (вучняў дзённых агульнаадукацыйных школ, гімназій, ліцэяў да іх заканчэння, а таксама навучэнцаў, якія вучацца за кошт уласных сродкаў у вышэйшых, сярэдніх спецыяльных навучальных установах і на курсах, што працуюць па рэжыму навучальных устаноў у дзённы час, і не атрымліваюць стыпендый, — да 18 гадоў);

1.15. 1.000 рублёў — дапамога непрацуючым і не атрымліваючым пенсій асобам, якія даглядаюць інваліда першай групы, дзіця-інваліда ва ўзросце да 16 гадоў, а таксама састарэлага, што дасягнуў 80-гадовага ўзросту;

1.16. 3.000 рублёў — дапамога на дзяцей ва ўзросце да 16 гадоў, інфіцыраваных вірусам імунадэфіцыту чалавека ці хворых на СНІД.

2. Прызнаць страціўшым сілу пункт І (за выключэннем пп. 1.6, 1.17) пастановы Дзяржаўнага камітэта па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва і Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь ад 7 мая 1992 года № 21/444.

**Старшыня Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва Г. П. БАДЗЕЙ.**

**Міністр фінансаў Рэспублікі Беларусь С. П. ЯНЧУК.**

30 кастрычніка 1992 года.

● РАДЫЁПЕРАХВАТ

### РАДЫЁ «СВАБОДА»

* Войскі Расіі, якія зараз дыслацыруюцца ў Таджыкістане, застануцца тут на пэўны час і стануць ядром міратворчых сіл.

*** Казахстан заклікаў да тэрміновай міжнароднай дапамогі ў вырашэнні экалагічных праблем Аральскага мора. Няхватка вады ў Сярэдняй Азіі, якая выклікана гібеллю Арала, можа стаць прычынай сур'ёзных сутычак паміж краінамі гэтага рэгіёна.**

* У Сараеве, сталіцы Босніі, зноў зніклі вада і электрычнасць. Галоўная лінія электраперадачы была днямі пашкоджана ў час начнога артабстрэлу.

*** Паводле даных расійскага цэнтра даследаванняў грамадскай думкі і рынку, Беларусь выглядае адной з найбольш антысеміцкіх рэспублік.**

* У іспанскім горадзе Гранада пачаліся перагаворы аб стварэнні сумеснага расійска-еўрапейскага касмічнага карабля шматразовага выкарыстання. У сустрэчы прымаюць удзел прадстаўнікі 13 краін.

### «ГОЛАС АМЕРЫКІ»

*** Напярэдадні пакідання пасады пасла ЗША ў Маскве Р. Страус заявіў, што Ельцын мяркуе правесці сур'ёзныя перамены ў кабінеце міністраў. Іх мэта — умацаванне сваіх пазіцый перад З'ездам народных дэпутатаў. На думку Страуса, Расіі на працягу двух бліжэйшых гадоў удасца стабілізаваць рубель, нягледзячы на гіперінфляцыю і рост беспрацоўя.**

* Эксперты ААН па ядзерных узбраеннях заявілі, што пачынаюць пошук інфармацыі пра пастаўшчыкоў ядзернай тэхналогіі Іраку.

*** Міністр замежных спраў Польшчы Скубішэўскі ў час візіту ў Ізраіль заявіў, што мінулае Польшчы стварае падмурак для асаблівых адносін паміж дзвюма краінамі. На заўвагі ізраільскіх улад аб росце ў Польшчы антысемітызму Скубішэўскі адказаў, што Польшча будзе і надалей садзейнічаць эміграцыі яўрэяў у Ізраіль.**

* Урадавы банк ЗША аб'явіў аб намеры прадаставіць Расіі крэдыты ў памеры прыкладна двух млрд. долараў для мадэрнізацыі яе нафтавай прамысловасці.

### «БІ-БІ-СІ»

*** У ходзе двухдзённага візіту Б. Ельцына ў Лондан будуць падпісаны важныя пагадненні, у тым ліку дагавор аб прынцыпах узаемаадносін. Назіральнікі адзначаюць, што такі дакумент падпісваецца ўпершыню за апошнія 200 гадоў. Згодна з дагаворам, Вялікабрытанія дапаможа Расіі ў дэмантажы ядзерных узбраенняў. Таксама будуць абмеркаваны праблемы вываду расійскіх войск з Прыбалтыкі. Лондан настойвае на вывадзе войск ва ўстаноўленыя тэрміны.**

* Сёння ў Берліне адзначаецца гадавіна пачатку арганізаваных нападзенняў нацыстаў на яўрэяў у 1938 годзе — так званай «хрустальнай ночы». У гэту ноч яны забілі і адправілі ў лагеры каля 20 тысяч яўрэяў.

*** М. Гарбачову, як і Колю, і Рэйгану, прысуджана прэмія «Свабоды Берліна» за заслугі ў справе аб'яднання Германіі. Гарбачову прэмія ўручана асабіста, Рэйган накіраваў за ёй свайго прадстаўніка.**

ИНТЕРФАКС interfax

### НЕВЯДОМЫЯ ВЫЗВАЛЯЮЦЬ ГРУПУ ЗАЛОЖНІКАЎ-ІНГУШОЎ

У панядзелак раніцай у раёне сяла Майрамадан (Паўночная Асеція) група ўзброеных людзей (каля 10 чалавек) без адзінага выстралу вызваліла з палону 30 інгушоў, сярод якіх былі і баевікі. Невядомыя пад'ехалі да паста, дзе знаходзіліся палонныя, на бронетранспарцёры і грузавым «Урале», раззброілі нешматлікую асецінскую ахову, зачынілі яе ў падвале і вывезлі ўсіх заложнікаў-інгушоў у невядомым напрамку. Ніхто з асецінскай аховы не пацярпеў. Пра гэта паведаміў «Інтэрфаксу» прадстаўнік Дзяржаўнага камітэта РФ па надзвычайных сітуацыях, што знаходзіцца ва Уладзікаўказе.

Паводле даных, якія маюцца, усяго на 9 лістапада ў руках у інгушскага боку знаходзіцца 120 заложнікаў-асецін, а ў асецінскага — 653 інгушы.

### 31 ЧАЛАВЕК ЗАГІНУЎ У ВЫНІКУ КАТАСТРОФЫ ВАЕННАГА ВЕРТАЛЕТА ПАБЛІЗУ АНАПЫ

**Паводле папярэдніх даных, 31 чалавек загінуў у выніку катастрофы ваенна-транспартнага верталёта МІ-6 Закаўказскай ваеннай акругі паблізу расійскага горада Анапа на Чорным моры 5 лістапада. Пра гэта «Інтэрфаксу» паведамілі ў прэс-цэнтры ЗакВА. Сярод выцягнутых з-пад абломкаў загінуўшых — 5 членаў экіпажа і 26 пасажыраў — усе ваенныя. Ахвяр можа быць і больш, паколькі дакладная колькасць людзей, што знаходзіліся на борце, невядомая.**

# Жыхарам Беларусі давядзецца ваяваць на два франты— з рублямі і з цэнамі. Пераможцаў можа і не быць

**Міна, закладзеная днямі Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь пад расійскі рубель, пачала дэтанаваць, выяўляючы пры гэтым шэраг зразумелых і не зусім тэндэнцый і акалічнасцей. Насуперак прагнозам, насельніцтва рэспублікі пакуль не ахапіла (цьфу-цьфу-цьфу) татальная ліхаманка збыту і абмену грошай, хаця сіндром «паўлаўскіх эксперыментаў» прывучыў нас трымаць свае кашалькі ў поўнай баявой гатоўнасці.**

На Камароўскім рынку беларускі «зайчык» у выхадныя дні «ішоў», як і ў апошнія паўтара тыдня, за 130—170 «драўляных», а нейкага асабліва адчувальнага падаражання па большасці пазіцый не адбылося. Затое з камісійных магазінаў хутка зніклі ўсе тавары асенне-зімовага асартыменту, якія каштавалі танней за 10 тысяч рублёў, — людзі ўкладвалі грошы. У дзяржаўных магазінах абышлося без ажыятажу напэўна таму, што купляць асабліва не было чаго. Большасць працаздольнага насельніцтва рэспублікі якраз напярэдадні выхадных дзён атрымала зарплату, і яна згуляла з некаторымі злы жарт, бо складалася на ўсе сто працэнтаў з расійскіх рублёў. Як такое магло здарыцца? Спецыялісты, з якімі мы параіліся, убачылі тут дзве прычыны. Па-першае, шэраг камерцыйных банкаў, мяркуючы па кастрычніцкіх і вераснёўскіх штампах на ўпакоўках грашовых пачкаў, у свой час чамусьці прыхавалі рублі, хаця Нацыянальны банк актыўна выключаў іх з абароту. І вось цяпер, спахапіўшыся, «камерсы» пачалі сплаўляць «драўляныя» ў якасці зарплаты, хаця, згодна з пастановай, у ёй павінна быць не менш за 80 працэнтаў «звяроў». Па-другое, супрацоўнікі некаторых банкаў і прыбліжаныя да іх асобы проста мяняюць свае «рускія» грошы на беларускія. Ужо вядомыя выпадкі, калі абменьваліся такім манерам дзесяткі тысяч рублёў.

Нягледзячы на тое, што абодва названыя «трукі» з'яўляюцца поўнасцю незаконнымі, іх асноўны росквіт яшчэ наперадзе — калі кожны жыхар рэспублікі сутыкнецца з абменам. Нагадаем, што мяняць плануецца па 5 тысяч рублёў на чалавека, аднак тыя, у каго прыватная «панчоха» значна паўнейшая, ужо зараз пачалі выкарыстоўваць іншыя, больш цывілізаваныя спосабы гэтай непрыемнай працэдуры. За выхадныя дні, напрыклад, на паштовых аддзяленнях, рэзка ўзрасла колькасць паштовых пераводаў самім сабе або родным на многія тысячы рублёў, а ў ашчадкасах рэспублікі на ашчадныя кніжкі пачалі класціся велізарныя сумы «драўляных». Потым «нуворышы» спакойна атрымаюць свае грошы ў выглядзе разліковых білетаў, і, здаецца, у гэтым няма нічога крымінальнага. Тым больш, што кіраўніцтва Нацыянальнага банка назапасіла іх удосталь, а днямі ў Мінск прыбудзе яшчэ велізарная партыя трохрублёвых «баброў» з Пермі.

Як падзеі будуць разгортвацца далей? Канешне, адпаведныя банкаўскія структуры пакуль не збіраюцца раскрываць перад шырокімі коламі насельніцтва рэспублікі свае карты, аднак «Звяздзе» штосьці ўдалося даведацца. У шырокім сэнсе за аналаг узяты прынцып увядзення купона на Украіне, толькі ў нас працэс значна паскорыцца. На думку некаторых спецыялістаў па фінансах, на Беларусі справа пойдзе часовымі прамежкамі па 10 дзён кожны. Напрыклад, сёння забаранілі рублямі разлічвацца за прадукты, з 20 лістапада «драўляныя» адсякуць ад прамысловых тавараў, а, скажам, 30 лістапада пад «вета» трапяць білеты на транспарт і грамадскае харчаванне, з 10 снежня — здадуцца «зайчыкам» бытавыя паслугі, а потым падзе апошні бастыён — камунальныя паслугі. Такім чынам, Новы год мы, хутчэй за ўсё, будзем сустракаць у кампаніі толькі з разліковымі білетамі Нацыянальнага банка РБ. Аднак паўтараем, што гэты прагноз з'яўляецца прыкладным, хаця схема і парадак дзеянняў набліжаны да рэальнай абстаноўкі. А каб такое паведамленне не пасеяла панікі і не абрасло рознымі чуткамі, нагадаем, што банкаўскія структуры рэспублікі валодаюць усім неабходным для таго, каб трымаць сітуацыю пад кантролем. Праўда, гэта датычыцца больш нас, звычайных абывацеляў. А айчынная мафія, хутчэй за ўсё, ужо знайшла надзейны спосаб таго, як перавесці свае ценявыя мільярды ў «звярыную валюту».

І апошняе. Не выключана, што даўно чаканае павышэнне цэн будзе прымеркавана менавіта да пачатку «расправы» з рублём. Для Дэпартамента цэн і іншых зацікаўленых структур Беларусі гэта вельмі зручны момант. Дарэчы, эксперты прадказваюць павышэнне цэн у сярэднім на 30—100 працэнтаў. Такім чынам, гэты тыдзень для насельніцтва рэспублікі будзе багатым на сюрпрызы. Вайна на два фронты — з рублямі і з цэнамі — непазбежная. Толькі ці будуць у ёй пераможцы?

**Кар. «Звязды».**

# Надзея памерла апошняй,

## АБО ЯК БЕЛАРУСКІ ХАКЕЙ СТАЎ АХВЯРАЙ АМБІЦЫЙ СВАІХ КІРАЎНІКОЎ

**«Яшчэ адно нараджэнне...» Так назвалі мы інфармацыю ў нумары «Звязды» за мінулую пятніцу, у якой паведамілі аб тым, што ў Мінску пройдзе кваліфікацыйны турнір трох хакейных зборных — Беларусі, Украіны і Казахстана, што вызначыць дзве каманды, якія ў наступным годзе прымуць удзел у чэмпіянаце свету сярод каманд групы «С». Выказвалі таксама думку, што шанцы трох зборных аднолькавыя... На жаль, «трэцім лішнім» аказаліся гаспадары. Але — аб усім па парадку.**

У прамым сэнсе слова да самага апошняга моманту ў стане беларускай зборнай уладарыла... неразбярыха. І справа была зусім не ў тым, што мела месца жорсткая канкурэнцыя за права апрануць форму нацыянальнай каманды суверэннай Рэспублікі Беларусь. Зусім наадварот: кіраўнікі і самой зборнай, і федэрацыі хакея не мелі ў сваім распараджэнні, так бы мовіць, патрэбных людзей: ігракоў, якія б маглі на роўных павесці з супернікамі барацьбу за адну з дзвюх пуцёвак у групу «С» сусветнага хакея. Так, ніхто — у тым ліку і галоўны трэнер зборнай Уладзімір Сафонаў, і прэзідэнт федэрацыі Яўген Анкуда — не разлічваў, што з'явяцца раптам з-за акіяна нашы выхаванцы Сяргей Фёдараў, Мікалай Баршчэўскі ці Андрэй Кавалёў, якія ў прамым сэнсе слова ўпрыгожваюць НХЛ. А вось падтрымкі з бліжэйшага замежжа, у тым ліку і з «белакаменнай» — чакаць можна і трэба было... На жаль, тыя ж Сафонаў і Анкуда так і не знайшлі агульнай мовы з зусім юнымі яшчэ маскоўскімі армейцамі Дзмітрыем Старасценкам і Яўгенам Грыбко, як і са сталымі і вельмі патрэбнымі зборнай Андрэем Дзмітрыевым і Сяргеем Хаткевічам, якія выступаюць цяпер у ФРГ: першыя двое, выхаваныя ў Мінску, мараць аб зборнай... Расіі, двое другіх не прадугледзелі «адлучэнне» ў сваіх кантрактах. Не было парадку і ў адборы сваіх, мясцовых хакеістаў. Заяўленыя ў папярэднім спісе шматвопытныя Ігар Матушкін, Аляксандр Цыплакоў, Віктар Карачун — ігракі, так патрэбныя зборнай, раптам... захварэлі. Але нам падалося, што «хварэюць» і яны, і іншыя спартсмены іншым: адсутнасцю кантактаў з кіраўнікамі беларускага хакея.

Ох, ужо гэтыя кантакты, узаемаадносіны, амбіцыі, прэтэнзіі... Дзесьці за месяц да пачатку турніра пачалі высвятляць адносіны паміж сабой галоўны трэнер мінскага «Дынама» і зборнай Беларусі У. Сафонаў і прэзідэнт федэрацыі Я. Анкуда. Пачалі з самага хворага і, адначасова, актуальнага пытання: хто і каму, а найперш — колькі — павінен? Умяшаўся галоўны «мецэнат» — прэзідэнт (вось ужо сапраўды: адны прэзідэнты! — і падысці няма да каго) хакейнага клуба «Дынама» Ігар Макаед, які нават на перадстартавай прэс-канферэнцыі не прамінуў заўважыць: клуб выставіў федэрацыі рахунак за хакейную форму і эксплуатацыю сваёй спартбазы... Прынамсі, каб не ўнікаць далей у іхнюю спрэчку-«дзяльбу», зазначым: корань няўдачы беларускай зборнай у кваліфікацыйным турніры і ляжыць у той грызні, што вялася і вядзецца паміж кіраўнікамі хакея.

Такім чынам, скамплектаваць каманду — а тым больш, стварыць калектыў аднадумцаў — трэнерскаму саставу і федэрацыі хакея не ўдалося. І, у рэшце рэшт, атрымалі яны тое, што і заслугоўвалі. Дык ці трэба было «гарадзіць плот»?!

А цяпер — пра сам турнір.

Сур'ёзную заяўку на адну з пуцёвак у групу «С» ужо ў першым матчы зрабілі хакеісты Казахстана: у напружаным, поўным драматызму паядынку яны адолелі зборную Украіны — 5 : 4. У наступнай гульні — Беларусь — Украіна толькі перамога з як мага большай розніцай шайб давала украінцам шанц на канчатковы поспех. І яны змаглі зрабіць тое, што і патрабавалася. Маладая, неабстраляная ў матчах такога ўзроўню беларуская каманда не змагла (ды і не магла яна — ні фізічна, ні псіхалагічна) супрацьстаяць вопытным суседзям. Вядомыя наперад такімі шматвопытнымі і здольнымі ігракамі, як Яўген Шасцін, Анатоль Сцепанішчаў, Анатоль Найда, Алег Хінько, украінцы што хацелі, тое і рабілі на пляцоўцы. Галы Міхаіла Фадзеева, Вадзіма Кулабухава, Анатоля Сцепанішчава (два) усё, як кажуць, паставілі на месца: гол прэстыжу Васіля Панкова ўратаваць беларусаў ніяк не мог.

Аднак надзея пайсці далей у нашай каманды яшчэ была: для гэтага ёй трэба было выйграць у казахаў з розніцай у тры шайбы. Праўда, будзем шчырымі: ні трэнеры зборнай Беларусі, ні спецыялісты, ні звычайныя аматары спорту ў гэта не верылі: вельмі ўжо істотная розніца ў класе ігракоў, у іх фізічных магчымасцях. Хоць, прынамсі, іскрынкі той надзеі мелі месца...

Невядома, якія словы казаў Уладзімір Сафонаў сваім выхаванцам перад матчам, але ў нядзелю балельшчыкі, якія прыйшлі ў Палац спорту, убачылі Гульню. Магчыма, перадаў настаўнік зборнай ігракам параду свайго калегі з Украіны Аляксандра Фадзеева, якую той выказаў на прэс-канферэнцыі: пастарайцеся «задушыць» саперніка ў самым пачатку гульні... Як бы там ні было, а ўжо праз 52 секунды бела-чырвона-белая каманда Сафонава вяла 1:0 — Эдуард Занкавец пасля перадачы Аляксандра Аляксеева запаліў за варотамі казахаў чырвонае святло. Беларусы працягваюць востра атакаваць, і праз восем мінут Васіль Панкоў даводзіць лік да 2 : 0. Патрэбна была яшчэ адна шайба. Усяго адна... Але ў другім перыядзе Юрый Каратаеў нямоцна кідае па варотах гаспадароў, шайба павольна слізгае па лёдзе, «ідзе» ў пастку варатарскай амуніцыі Аляксандра Гаўрылёнка і... нейкім незразумелым шляхам трапляе ў вароты. Сітуацыя становіцца невырашальнай: забіць яшчэ два галы ў вароты сапернікаў беларускай камандзе проста не па сілах. І хоць абаронца Сяргей Стась робіць лік 3 : 1, гэтага мала: пуцёўкі на чэмпіянат свету ў групу «С» па праву дасталіся мацнейшым — зборным Украіны і Казахстана. Нам жа застаецца чакаць свайго шанцу яшчэ год...

Уладзімір Сафонаў прызнаў паражэнне сваёй каманды... заканамерным. «Гуляць у зборнай павінны мужыкі, а не хлапчукі, — сказаў ён.— Нам патрэбны планамернасць у рабоце, наогул — новае пакаленне хакеістаў. Наша каманда — сярэдненькая, добрых выканаўцаў няма...»

Так, няма. Як наогул няма хакея ў рэспубліцы. Тое, што паказала мінскае «Дынама» ў турніры на Кубак міжнацыянальнай лігі, прабачце, таксама не хакей... Дык хто перашкаджае і таму ж Уладзіміру Сафонаву, і таму ж Яўгену Анкудзе расціць «мужыкоў», планаваць работу, узнімаць клас ігракоў?

А адказ мы — са свайго пункту гледжання — далі ў падзагалоўку артыкула...

**Анатоль МЯСНІКОЎ, Анатоль СЛАНЕЎСКІ, спец. карэспандэнты «Звязды».**

